БРАСЛАЎШЧЫНА, ГЛЫБОЧЧЫНА, МЁРШЧЫНА, ПАСТАЎШЧЫНА, ШАРКОЎШЧЫНА

№ 12(12), кастрычнік, 2000 год. KRESY

# Краязнаўца Паазер`я

КРАЯЗНАЎЧЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЕТЫ «КРЭСЫ»

ІОСІФ ЗЯМЧОНАК

# ПАСТАВЫ ВІЛЕНСКІЯ

(гістарычны нарыс)

## "МАЯ АЗЁРНАЯ КРАІНА ..."

***Пастаўскае Паазер'е*** раскінулася абапал часткі старажытнага гасцінца з захаду на ўсход - стаўбавога шляху сярэднявечча: Вільня - Полацк, вядомага пад назвай "тракт Стэфана Баторыя". Пастаўшчына, якая працяглы час належала да Віленшчызны, уваходзіць зараз у склад паўночна-заходніх абшараў Віцебскай вобласці Беларусі, а ўласна Паставы - самы заходні горад цяперашняй Віцебшчыны. Па плошчы зямля нашых продкаў пераўзыходзіць многія краіны свету, такія як Бахрэйн, Мальта і Манака, а таксама Ліхтэнштэйн, Сан-Марына і Сінгапур. Зусім ненамнога большыя, скажам, Люксембург і інш.

Непаўторная прыгажосць прыроды гэтага края заўсёды вабіла вандроўнікаў, многія з якіх натавалі для нашчадкаў свае ўражанні. Варта прывесці шчырыя словы захаплення мясцовымі краявідамі графа Станіслава Мыцельскага, дэпутата Сейма, эканаміста, які ў пачатку 30-х гг. XX ст. наведаў Крэсы:

"*Я знаю немного мир. Как охотник, я скитался по разным краям. Карпаты были для меня вершиной красоты и охотничьих эмоций. Африка захватывала меня дрожью приключений и опасностью, но признаюсь искренно, что, будучи первый раз на наших восточных окраинах, испытал совершенно новые чувства, удивительные и очень сильные. Я полюбил эти равнины с первого взгляда, от момента, когда из окон вагона я смотрел на эти болота, на эти низкие, редкие леса, а край этот ровный, так везде похожий на себя, так удивительно притягивающий, стал мне сразу близким и дорогим...*".

І надзвычай паэтычныя радкі прызнання Станіслава Дзікоўскага у знакамітай "Экзотической Польше. Из охотничьих скитаний":

"*...Встречаются здесь на севере безнадёжно глухие, пустынные места, которые внезапно появляются, тянутся некоторое время и исчезают без следа. Мы видим не только изменчивый характер пейзажа, но и чувствуется значительное изменение климата. Внезапные перепады температуры, постоянные вихри, небо, затянутое тучами, влажность, выделяющаяся из болотистых бассейнов рек, затопленные места, болота, топи, трясины, мокрые луга, малоурожайные, недосмотренные, разбросанные по огромным пространствам поля, совершенно не пригодные для обработки, торфяники, тянущиеся десятки километров, озёра с плоскими открытыми берегами, полные коварных омутов - это всё говорит каким-то меланхолическим языком и навязывается как неотъемлемое воспоминание в дальнейшем путешествии.*

*Иногда заядлый охотник, которого не удивляет неожиданное купание или путешествие по колышущемуся "кожуху", находит здесь настоящий рай, особенно в период летней и осенней охоты. Непроглядные стада уток выводятся в прибрежных зарослях озёр и рек, бекасы и дупеля выскакивают из мокрых лугов, тетерева и глухари среди болотных зарослей, а белые куропатки, эти животные кое-где совершенно неизвестные, кормятся целыми стаями на огромных торфяниках.*

*... Щедрые восходы и заходы солнца. Серый и мизерный мир жадно поглощал все блески и краски,*




малюнак Сяргея Шчэрба



малюнак Сяргея Шчэрба

*насыщался ими вдоволь и изменял свой вид. Земля, небо и вода сбрасывали скверную и поношенную сермягу и надевали королевский плащ, украшенный драгоценностями. На границе стихий света, между вечером, ночью и днём разыгрывалось волшебное зрелище рассвета и заката, окутанное клочьями мглы, выкупанное в прозрачной бриллиантовой бездне вод, насыщенное пурпуром и золотом солнца или таинственным блеском месяца. В это время всё набирает глубокую сочность. Все формы мощнеют и выделяются среди серозелёной однообразности, которая исчезает, наконец, без следа".*

Сучасны горад Паставы размешчаны на ўзбярэжжах двух азёраў і ракі Мядзелкі. Трывала ўсталяваным у беларускай гісторыяграфіі датаваным пачаткам эры Пастаў афіцыйна выступае 1409 г. Аднак у замежнай гістарычнай літаратуры яны вядомы пад 996 годам: "...В 25 верстах от озера Мездолье [Мядзель] находится поселение 5 домов, наземное. Его сельцы занимались рыбой в озере Задревское. Селение возникло в 996 г. Деспот - Зенович приезжий магнат облюбовал это место и основался в 1005 году. После его смерти владел им сын Данут Зенович, после его племянник С.Зенович. Поселение перво Посадник было 13 домов. После него в 1349 г. был племянник, сын Гвидона и он был владельцем деревни, рыбой занимался. А последним владельцем был Зенович Героним в 1409 г. получил уже местечко 26 домов ..." (С.Д. Фёдараў) - такія звесткі аб старажытным - "пасадскім" перыядзе Пастаў паходзяць з пачатку XX стагоддзя.

Такім чынам, Паставы становяцца пятым па старажытнасці паселішчам Беларусі пасля Полацка (862 г.), Віцебска (944 г.), Турава (980 г.) і Заслаўя (985 г.). Землі будучага пасялення знаходзіліся ва ўладанні пасадніка (намесніка князя). Адсюль і першапачатковая назва - Пасаднік. У раннім сярэднявеччы згаданая мясцовасць уваходзіла ў склад Полацкага княства, і названы дзяржаўны муж быў стаўленікам аднаго з першых полацкіх князёў.

Тапанімічная сувязь рэгіёнаў Галіча, Валыні, Вільні і ўсёй Летапіснай Літвы ўскосна тлумачыць тыя прэтэнзіі, якія мелі і галіцкія князі (і іх нашчадкі, нават, у 20-я-30-я гг. XX ст.) на гэтыя землі, крэўна-сваяцкія па кельцкаму субстрату.

Тысячагадовая спадчына названай вёскі, мястэчка і горада, а затым (у Расійскай імперыі) ізноў мястэчка і, пазней, таксама горада, надзвычай багата цікавымі, а ў асобныя перыяды сваёй гісторыі, нават, захапляльнымі падзеямі і выдатнымі асобамі. З поўным правам гэтыя словы можна аднесці да часоў Тызенгаўзаў: Антонія (1733-1785 гг.), які "атрымаў Паставы драўлянымі, а пакінуў мураванымі", і Канстанціна (1786-1853 гг.). Сучаснік апошняга з іх, прафесар Антоній Вага, сцвярджаў: "Шчаслівыя, хто бачыў Паставы той эпохі". Яму ўторыла пісьменніца Габрыэла Пузыніна: "Калі б мяне хто запытаў, дзе на зямлі ёсць шчасце, адказала б, што яно ёсць у Паставах..." (1836 г.).

І сапраўды, роля гэтай рыцарскай фаміліі баронскай годнасці ў гісторыі Пастаў, дзе Тызенгаўзы мелі шыкоўную рэзідэнцыю ў радавым маёнтку, вельмі значная. Былое невялікае пасяленне за іх часам перажывае незвычайны росквіт. Адбываецца мноства прамысловых пераўтварэнняў, характэрных толькі для самых развітых краін свету, у прыватнасці для Англіі. Заснавана каля дзесятка прадпрыемстваў. Узводзіцца шмат стыльных (барока) еўрапейскага ўзроўню будынкаў. Мястэчка становіцца сапраўдным горадам - навуковым і культурным цэнтрам Рэчы Паспалітай. Дастаткова сказаць, што гаражане ганарыліся буйнейшымі ў краіне еўрапейскага ўзроўню тэатрам, балетнай і музычнай школамі, а таксама народным вучылішчам, бібліятэкай, зборы якой "не саступалі кніжным цэнтрам вялікіх гарадоў" (А. Вага), сімфанічным аркестрам, капэлай, карціннай галерэяй, дзе былі прадстаўлены палотны эпохі Адраджэння: італьянская, галандская, нямецкая і французская школы. Меліся арыгіналы Леанарда да Вінчы, Рубенса, Дзюрэра, Снэйдэрса і іншых вядомейшых у свеце мастакоў. Пастаўская карцінная галерэя была створана на некалькі дзесяткаў гадоў раней, чым Трацякоўская ў Маскве. У сярэдзіне мінулага XIX ст. сюды, у Паставы, прыязджалі многія вучоныя-натуралісты, прафесары еўрапейскіх універсітэтаў. Іх цікавіў, па словах гісторыка А. Сапунова "замъчательный" заалагічны музей, у якім захоўвалася адна з буйнейшых у Еўропе арніталагічных калекцый, а таксама заапарк, батанічны і фруктовыя сады. Тады Паставы

сапернічалі з самой Вільняй у вывучэнні фауны. Нездарма, падкрэсліваючы вартасці пасялення, яго часта называлі ***Паставы Віленскія.***

Пры Яне Казіміру Бяганскім ў канцы XYII-пач. XYIII стст. у Паставах быў самы вялікі кірмаш на Беларусі: працягваўся 2 тыдні, пачынаючы з дня Св. Троіцы.

Шмат здзейсніл для цывілізацыі края прадстаўнікі графскага рода Пшэздзецкіх герба Roch (Шахматная Вежа).

З Пастаўшчыны паходзяць або працавалі на гэтай зямлі такія яркія дараванні, як арганіст, педагог, дырыжор і публіцыст Браніслаў Руткоўскі; кампазітар, харавы дырыжор і педагог Станіслаў Казура; мастак Альфрэд Ромер; садавод Іван Сікора, нярэдка называемы “другім Мічурыным”; паэт-сімваліст і празаік Уладзімір Дубоўка, чые словы вынесены ў назву ўводзінаў; святар з г. Гайнаўкі а. Антоній Дзевятоўскі. Імёны славутасцяў мінуўшчыны Пастаўскага края можна працягваць і працягваць.

З хвалі вымушаных перасяленцаў - нашых сучаснікаў трэба адзначыць найперш наступных.

Барыс Кіт - акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, прафесар матэматыкі. Гэта чалавек, які вучыў амерыканцаў лётаць у космас, бо з яго ўдзелам ствараліся праекты “Шатл” і “Апалон”. Ён быў экспертам і дарадцам ўрада ЗША ў галіне асваення касмічнай прасторы. Прадаўжальнік справы вынаходцы “шляхціча-ліцьвіна” з Віцебшчыны Казіміра Семяновіча (XVII ст.). Збігнев Сямашка - гісторык з Лондана. У ЗША жыве айцец Аляксандр Ясюковіч, які плённа працуе як мастак. Дарэчы, першым чытачом Нью-Йоркскай нацыянальнай бібліятэкі стаў так сама пастаўчанін-эмігрант.

Жывуць і працуюць у Польшчы: прафесар доктар гістарычных навук Ганна Дэлёнгова, папулярнейшы кінаакцёр Зыгмунд Кенстовіч, доктар гуманістыкі Ежы Гарбінскі і многія іншыя.

Цэлая плеяда зорак у розных галінах жыцця Беларусі займаюцца стваральнай працай на радзіме, імёны і біяграфіі якіх будуць пададзены ніжэй.

На жаль, слаўная мінуўшчына горада и прадмесцяў мала вядома яго жыхарам, і гэта не дзіўна, больш таго, дастаткова тыпова для беларусаў у дачыненні да ведання сваіх каранёў, бо, як пісаў класік:

Тут схадзіліся плямёны  
Спрэчкі сілаю канчаць,  
Каб багата адароны  
Мілы край наш звяваць ...

Каб у віры той ашукі  
Знішчыць нашы ўсе сляды,  
Каб не ведалі і ўнукі,  
Хто такія іх дзяды.

Досыць адчайныя спробы адраджэння сутыкаліся з татальным “тутэйшым” канфармізмам і, нярэдка, прыпыняліся гвалтоўна “старэйшымі братамі”. Аднак у кожнага народа свой крыж. Веданне ж сваёй сапраўднай гісторыі, спадзяюся, надасць сілы наступным пакаленням.

Если бы вы, изучая историю,  
вникали в суть событий,  
а не заучивали наизусть  
наклеенные на них ярлыки,  
вы извлекли бы из нее  
правила вашего поведения.  
*О. БАЛЬЗАК*

# ПАСТАВЫ Ў 1409-1722 гг.



Герб 1796 г.

Выгоднае геаграфічнае становішча Пасадніка і высокі статус яго ўласнікаў садзейнічалі росту насельніцтва, развіццю рамёсел і гандлю, рыбалоўства і сельскай гаспадаркі, паступова пераутвараючы ў прыцягальны для навакольных жыхароў, а таксама для далёкіх падарожнікаў і перасяленцаў гарадок, які прыносіў добры прыбытак яго ўласнікам.

У 1409 годзе Зяновій (ад імя якога пазней утварылася радавое прозвішча Зяновічаў; па Фёдараву С.Д. – Геранім) атрымаў ад Вялікага Князя Літоўскага Вітаўта грамату на перавод вёскі Пасаднік у разрад мястэчак з прысваеннем новай назвы Паставы. Рэгістр “Dokumentow Spraw różnych na Dobra Postawy ....” з Галоўнага Архіва Старажытных Актаў (г. Варшава), даступнага аўтару ў 2000 г., утрымлівае “Postawy” пад 1409 г., а разам з тым, у ім падаюцца звесткі з 1555, 1507, 1568, 1583, 1590, 1599, 1606, 1614 і інш гадоў.

У 1414 г. Вітаўт падцвердзіў Зяновію правa на валоданне бацькоўскімі маёнткамі, сярод якіх названы

Паставы з вялікім абшарам да р.Дзісны і мяжы Полацкага павета.

Паходжанне назвы звычайна тлумачыцца як горад, размешчаны "ПА СТАВУ" вады. "СТАЎ" - запруда, спыненая вада.

Зыходзячы з таго, што ў перыяд Лівонскай вайны пад час другога пахода караля Сцяпана Батуры супраць рускіх войскаў цара Івана Грознага ў 1581 годзе "...венгерская пъхота, по распоряженію короля, шла сухимъ путёмъ до Поставъ: отсюда на лодках (navibus) вмъстъ съ орудіями и прочими тяжёлыми военными снарядами, она по ръкъ прибыла в Дисну", рака тады была паўнаводнай і паселішча служыла важным зборным пунктам беларуска-літоўска-польскіх войск. Тады ж: "Замойскій приказалъ перевезть всё приготовленное (орудія, порохъ, провіантъ и фуражъ) въ Ковно, оттуда вверхъ по Виліи въ Михалишки, изъ Михалишекъ сухимъ путёмъ въ Поставы. Потомъ въ Дисну, а оттуда Двиною въ Витебскъ..."

Галоўным промыслам пастаўчан доўгі час быў рыбалоўны, што падкрэслівае і герб горад: "Въ уъздъ сего города при мястечкъ Мяздолъ (Мядель) въ озеръ производится обильная рыбная ловля, довольствуяцая губернскій городъ Минскъ и другія; въ знакъ сего въ голубомъ полъ изображена въ низу пирамидально растянутая серебряная рыболовная сътъ, а сверху такимъ же образомъ угломъ положены и обращены головами внизъ три золотыя рыбы".

У 1796 годзе 22 студзеня ён быў зацверджаны Сенатам Расійскай Імперыі На блакітным фоне яго шчыта французскай формы (прадаўгаваты чатырохвугольнік, ніжнія краі якога злёгку закруглены і сходзяцца пад вуглом) знаходзіцца сярэбраная пірамідальная рыбалоўная сетка ў ніжняй частцы герба і звернутыя да яе галовамі тры залатыя рыбкі. У верхняй - дзяржаўны сімвал.

Дазволю сабе выказаць іншую трактоўку слова "ПАСТАВЫ". Да яе мяне схіляюць старажытныя назвы пасялення: ПАСТАВА, ПАСТАЎКА. Вёска была раскінуўшыся не толькі абапал ракі, але і сярод лясных абшараў. Звычайны таксама занятак яе жыхароў - нарыхтоўка драўніны. Яна магла апрацоўвацца на шматпільных станках, якія ў сярэднявеччы ўжо выкарыстоўваліся. Група піл такіх лесапільных рам, устаноўленых у адпаведнасці са схемай раскрою бярвёнаў, носіць назву "ПАСТАЎ". Гэты тэрмін і замацаваўся за месцам працы і пражывання нарыхтоўшчыкаў драўніны як сведчанне аб промысле тагачасных насельнікаў пасадніка.

Яшчэ адно значэнне: "ПАСТАЎ" - прыстасаванне для размолу зерня. І назва "ПАСТАВЫ" магла ўтварыцца ад тых "пастаў" таксама.

У 1522 годзе Ян Зяновіч фундаваў будоўлю парафіяльнага касцёла. Знішчаны, верагодна, у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг., быў адноўлены ў 1760 г., не захаваўся. Нашчадак гаспадара, таксама Ян Зяновіч, ахвяраваў касцёлу літургічны посуд з надпісам на латыні: "Ян Зяновіч маршалак Ашмянскі на ўслаўленне Дзевы Марыі і Св.Іаана апостала даруе ад чыстага сэрца. 1665 г. (Належыць касцёлу парафіяльнаму Пастаўскаму)".

Згодна інвентара 1628 г., цэнтрам Пастаў была гандлёвая плошча, дзе знаходзіўся касцёл з плябаніяй, 6 двароў гандляроў і рамеснікаў, а таксама карчма. На вуліцах-дарогах, што вялі на Мядзель, Глыбокае і Друю, было 26 двароў. За р.Мядзелкай (у інвентары Мядзеліца) размяшчалася прадмесце Зарэчча, якое мела 17 двароў. Былі таксама 2 пасады на 8 і 9 двароў. Усяго ў Паставах налічвалася 66 двароў. За межамі мястэчка існаваў сядзібны комплекс, аб чым гаварылася вышэй.

Інвентар 1637 года падае. Самы вялікі маёнтак Зяновічаў, што знаходзіўся над ракой Бакавіцай - прытокам Лучайкі, непадалек ад вёскі Бакавішча, выглядаў так. Траплялі ў двор праз уязную браму, над якой размяшчалася памяшканне з ганкам, бягучым вакол са знешняга боку. Галоўны жылы дом быў вялікім двухпавярховым збудаваннем, накрытым дранкавым дахам. Уваход афармляўся шаляванай верандай з лаўкамі па крузе і з бакавымі прыбудовамі, характэрнымі для XVII ст. На першым паверсе побач з уваходам і лесвіцай на 2-і паверх знаходзілася сталовая з 5 вокнамі, а таксама тры пакоі з 3 вокнамі, а пасля кожнага з іх - па аднаму пакою з 1 акном, і ў канцы - па аднаму памяшканню з 5 вокнамі. Пры некаторых жылых пакоях знаходзіліся "патрэбныя каморкі" з вядомым прызначэннем, што гаворыць аб наяўнасці пэўнага камфорту і цывілізацыі ў паўсядзённым жыцці, бо падобныя "каморкі", скажам, у Францыі з'явіліся ў палацах толькі ў XVI ст.

Як асабліва каштоўныя інвентарый падае жалезныя прадметы: замкі, завесы, штабы (зашчэпкі для дзвярэй).

Падобнай архітэктуры быў таксама двор Ежы Яна Зяновіча ў 1620-1622 гг. Ён стаяў над ракой Мядзелкай, насупраць маста, пры якім знаходзіўся піваварны завод. Жылы дом, называемы "вялікім", меў з фасада ганак на слупах. Яго абкружалі поручні такарнай работы і лаўкі сталярнай. Побач з будынкам цягнуліся пладовыя сады.

У 1640 г. (па іншых дадзеных, у 1647 г.) на востраве (на паўночны ўсход ад цэнтра), утвораным выгінам ракі Мядзелкі і каналам, пабудаваны кляштар францысканцаў з касцёлам (не захаваліся, на іх месцы ў канцы XIX ст. узведзены касцёл Св.Антонія). У склепе францысканскага храма знаходзіліся пахаванні. Захавалася надмагільная пліта, дзе ёсць надпіс: "Тут спачываюць целы гаспод вяльможных гг. Казіміра і Апалоніі з Дэспатаў Зяновічаў з Бяганава Бяганскіх маршалакаў Браслаўскіх супругаў фундатараў гэтага касцёла і іх нашчадкаў, пахаваных..." (далей тэкст не чытаецца). Каралеўскі сакратар Бяганскі і яго жонка фундавалі таксама кляштар.

Бясконцыя ваенныя дзеянні пакінулі шмат крывавых слядоў на Пастаўскай зямлі. Пасля вайны 1654-1667 гг. у Паставах засталося толькі 5 двароў з больш, чым 70-ці даваенных. Пра Паўночную вайну Расіі са Швецыяй 1700-1721 гг. нагадваюць замацаваныя ў сцены галоўнага фасада і вежы Камайскага касцёла ядры шведскіх гармат.

У 1686 годзе Паставы, Востраў і Судэрва дасталіся Апалоніі Бяганскай.

21 красавіка 1713 г. кароль Аўгуст II "...кромъ ярморокъ и торговъ, дарованныхъ издавна къ производству ихъ въ Ста-ромъ городъ Поставахъ, далъ привилегію на учрежденіе ярморокъ и торговъ на Новомъ мъстъ, иначе называемомъ Іосафатово". У Іасафатаве ў тым жа самым годзе акрамя царквы Св. Троіцы была "церковка св. Онуфрія и церковь преподобныхъ отцовъ базиліанъ".

# “НАШ ГОЛАС” – ЧАСОПІС ДЗІСЕНСКАЙ ГІМНАЗІІ.

Вучнёўскае самакіраванне “Супрацоўніцтва” гімназіі імя кс. Гжэгажа Пірамовіча ў Дзісне пачало выдаваць часопіс “Наш голас” у 1930 – 1931 навучальным годзе. Спачатку ён вфыходзіў раз у месяц, а з 1933-га года – двойчы. Трэба заўважыць, што ў гісторыі каралеўскага горада гэта было першае і адзінае друкаванае польскамоўнае выданне. Яно з’явілася па ініцыятыве дырэктара гімназіі доктара Тадэвуша Станеўскага пры клапатлівай падтрымцы ксяндза Сільвестра Малахоўскага. Апеку над часопісам было даручана ажыццяўляцю прафесарам гімназіі Аляксандру Мацяшку, а потым – Баляславу Цыпсу, Вандзе Хмялеўскай і Станіславу Станкевічу.

Галоўнымі рэдактарамі заўсёды былі вучні, у асноўным выпускных класаў. Першы – Пётр Пупін (убудучым ксёндз), затым Ян Гушча (стаў беларускамоўным пісьменнікам), Мілецій Андзілеўка, Дзмітр-Мечыслаў Касаты (паэт, дырэктар БВА ў Вроцлаве), Леапольд Драздовіч, Юзаф Буёнак і апошнім у 1939 годзе стаў Генрых Пухальскі.

Першы нумар “Нашага голаса” у 1930 годзе быў надрукаваны на шклографе. Як успамінае Пётр Пупін, назва адлюстроўвала імкненне зрабіць часопіс голасам нашых меркаванняў, які б быў чутны не толькі ў Дзісне, але і ва ўсёй Польшчы. Спачатку выдадзена 70 экзэмпляраў, затым тыраж павялічыўся да 300. У 1931 годзе часопіс друкаваўся ў Вільні (друкарня Казіміра Ліньковіча, зав. Літарацкі, 11). З наступнага года выкарыстоўвалі Друкарні Глыбокага, спачатку М. Казловіча (плошча 3-га Мая, 9), а з 1933 года – З. Шэйнбойма (таксама плошча 3-га Мая, але дом 46, тэлефон 45). Апошні нумар перад пачаткам другой сусветнай вайны выйшаў з друкарні паноў Шэйнбойма і Голдберга.



Будынак Дзісенскай гімназіі

Характэрна, што цана часопіса на працягу ўсіх дзесяці гадоў не мянялася, чаму сёння можа пазайздросціць любое выданне: 50 грошаў за нумар, 5 злотых на год з перасылкай, а для вучняў 30 грошаў за асобнік, 2, 5 злотых на год з перасылкай, без перасылкі – 2 злотыя. Таму выдаўцы ўвесь час пераадольвалі фінансавыя цяжкасці. Падтрымлівалі часопіс дырэктар Станеўскі і гаспадар млына Майжэш Бімбат.

“Наш голас” спачатку з’яўляўся часопісам навуковай літаратуры, а з 1934 года, як адзначалася ў падзагалоўку, – навукова-літаратурным і грамадскім. Друкаваўся кароткімі сказамі, выразнай і зразумелай мовай, амаль без памылак. Праўда, часта рэдактары з-за недасведчанасці не пазбягалі нейкіх недакладнасцяў. Так, у інтэрвью з новым бургамістрам не было адзначана яго прозвішча. Зараз ужо мала хто памятае, што гэта быў бацька нашай сяброўкі Міры Пуцятаўны.

У № 4 часопіса за 1931 год рэдакцыя прыводзіць словы прафесара Віленскага ўніверсітэта Яна Снядэцкага з XVIII стагоддзя: “Мова – гэта не сукенка жанчыны, якую можна перарабіць, перакруціць, накамячыць, каб потым яе выкінуць і забыць”. З мовай звязана перш за ўсё культурная прыналежнасць. Гэтыя радкі актуальныя і сёння. З публікацыі можна даведацца, што мову беларусаў у Маскве звалі літоўскай і перакладалі з яе.

Кожны нумар часопіса адкрываўся ўступным артыкулам рэдактара, які ўтрымліваў асноўныя палажэнні аб яго мэце – займацца справамі навукі, літаратуры і гармадскага жыцця. Таму выданне стаяла на даволі высокім мастацкім і літаратурным узроўні, трымаючы чацвёртае месца паміж школьных выданняў усёй Польшчы. І да апошняга нумара часопіс быў верны свайму запавету адлюстроўваць лад жыцця асяроддзя, з якога паходзіць большасць моладзі – вёскі. Таму друкаваў паданні і легенды, расказваў пра звычаі і традыцыі беларускага народа як хроніку таго, што ўжо знікае.

Тэматыцы выдання можна толькі пазайздросціць. Шмат месца адведзена гісторыі каралеўскага горада Дзісна. Былі навіны з краіны і ўсяго свету, рэгіянальная тэматыка. Асвятляліся пытанні культуры, змяшчаліся рэцэнзіі на тэатральныя прад-

стаўленні, канцэрты школьнікаў. Друкаваліся матэрыялы аб мясцовых грамадскіх і гаспадарчых справах. "Наш голас" актыўна ўдзельнічаў у жыцці горада. Быў, напрыклад, надрукаваны бюджэт Дзісны, праводзілася дыскусія аб неабходнасці будаўніцтва чыгункі з Шаркаўшчыны, уносіліся прапановы добраўпарадкаваць гарадскі парк імя Браніслава Перацкага, палепшыць стан вуліц і дарог.

Шырока асвятлялася жыццё гімназіі і ліцэя, маладзёжных арганізацый. Часопіс паведамляў, што існавала таварыства акадэмікаў-дзіснян, старшынёй якога быў Данат Масальскі, пазней доктар-хірург, які памёр у Торуні. Куратарам гэтай арганізацыі з'яўляўся Тадэвуш Чыжоўскі з універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Ішла гаворка аб дзейнасці аб'яднання выхавацеляў гарадской гімназіі, аб жыцці харцэрскай дружыны імя Рамуальда Траўгута, аб справах вучнёўскага самакіравання і яго секцый, аб саюзе "землян крэсовых", аб існаванні метэаралагічнай станцыі. Адным



**Выкладчыкі і навучэнцы школы. Фота 30-х гадоў.**

словам, часопіс быў універсальны і markdown разнабаковы. Таму не састарэў да нашага часу.

З "Нашага голасу" вядома, што да 1900 года ў Дзісне сярэдняй школы не было. Першая ўстанова такога тыпу – прагімназія Барбары Дзімітравай і Веры Лішынай, якая існавала два гады. У 1908 – 1909 гадах дзейнічала новая гімназія Палагеі Навіцкай, таксама руская, мела чатыры класы. Перастала існаваць з-за недахопу сродкаў. У 1906 годзе з'явілася таемная польская школа ў доме пані Снарскай. У 1917 годзе па ініцыятыве дзісенца Казіміра Русецкага ўтвараецца камітэт прыватнай гімназіі з рускай і абавязковай польскай мовамі. У 1918-м пад час нямецкай акупацыі паўстае польская прагімназія на чале з дырэктарам Бургартам. Нарэшце, у 1921 – 1922 навучальным годзе адкрылася гімназія імя ксяндза Г. Пірамовіча, першым яе дырэктарам стаў доктар Тадэвуш Станеўскі. Яна атрымала нумар 925. Надрукавана таксама гісторыя поўшэхнай школы.

Кожны мог знайсці ў часопісе нешта для сябе: звесткі пра касу Стэфчыка, парады па жывёлагадоўлі, рыбалоўству, апрацоўцы лёну. Дзякуючы такой універсальнасці, ён неаднойчы атрымліваў станоўчыя рэцэнзіі ў друку.

З 1935 года ў "Нашым голасе" пераважае рэгіянальная тэматыка – мясцовая вёска з яе традыцыямі і будучыняй, мястэчкамі, археалагічныя раскопкі, цікавыя тутэйшыя выпадкі. Ці ж не цікава: нібыта, у 1824 годзе жыў у маёнтку Кастравіцкіх у Дарожкавічах Адам Міцкевіч. І шмат легенд і песень на беларус-кай мове і аб Беларусі. Вось, напрыклад, урывак з верша Д. Касатага "Беларусь" у нерыфмаваным перакладзе:

Люблю цябе, сумную, забытую зямлю,
Людзей спакойных,
абцяжараных спякотнай працай,
Ціха граючыя ў касцёле арганы,
Нядзельныя фэсты, святы і пасты.
Люблю гэта ўсё і адчуваю гэта ў сабе.

Шмат пішацца аб нацыянальных меншасцях – літоўцах і стараабрадцах. Справа для тых часін нехарактэрная, але часопіс выдзяляўся менавіта нацыянальнай і рэлігійнай талерантнасцю.

Даведваемся, што ў гадавіну смерці патрона гімназіі Г. Пірамовіча 17-га лістапада на ўрачыстасці з дакладам выступіў прафесар Дзмітрый Арэм, урачыстае набажэнства правёў ксёндз Сільвестр Малахоўскі.

Знаходзім шмат вестак пра выпускнікоў гімназіі. Так, сталі ксяндзамі ці клірыкамі Ян Лінцэвіч, Клеменс Півавару, Пётр Пупін, Герман Мацкевіч, Зянон Лазоўскі, Юзаф Гірэт, Юзаф Буёнак, Яўгеніюш Бэлюй, а Эдвард Кісель нават беластоцкім архіепіскапам і мітрапалітам. З дзісенскай вуліцы Заліўной паходзіць глыбоцкі дэкан ксёндз Антоні Зінкевіч.

Найбольш цікавыя артыкулы выклікалі дыскусіі, уздымалі аўтарытэт іх аўтараў. Да сённяшняга дня цікавыя аб'явы як сведчанні эпохі. Напрыклад, цырульня Х. Формана, што існавала з 1897 года, абяцала жанчынам найноўшыя прычоскі. Крама Г. Гаўтмана па вул. Міцкевіча, 22, прапаноўвала ўсё добрае, усё свежае, усё высокай якасці і па даступных цэнах, але ўжо на вуліцы Рог Віленскай.

Дзесяцігадовага юбілею "Наш голас" не дачакаўся. З 1930 года да 1939-га з'явілася некалькі дзесяткаў сшыткаў. Невядома, ці захаваўся першы нумар, ці выйшаў апошні № 4 за 1939 год.

Некалі рэдакцыя "Нашага голасу" звярталася: "Сябры і сяброўкі! Просім камплектаваць нумары "НГ", каб потым захаваць на вечную памяць". Па ініцыятыве першага рэдактара Пятра Пупіна было вырашана сабраць першы сяброўскі з'езд выпускнікоў гімназіі ў 1940 годзе. Аднак да гэтага справа не дайшла.

Застаецца сказаць, што часопіс цалкам рэдагаваўся вучнямі. А больш глыбокі і змястоўны навуковы аналіз яго яшчэ наперадзе.

***Міхал Вазгірд. Торунь. Польшча.***
***Пераклад з польскай мовы В. А. Ермалёнка.***

# Вёска: 20-я – 30-я гады

*В. Каралёў*

Пасля Рыжскага пагаднення паміж Савецкай Расіяй і Польшчай у 1921 годзе наша мясцовасць увайшла ў склад Польшчы. Заходняя частка цяперашняга Міёрскага раёна належыла тады да Браслаўскага павета, а ўсходняя – Дзісненскаму, установы якога знаходзіліся ў Глыбокім па прычыне пагранічнага становішча Дзісны. Абодва паветы належылі Віленскаму ваяводству – аднаму з чатырох усходніх.

Наш край не вылучаўся асабліва гаспадарчым і грамадскім развіццём у папярэднія стагоддзі. Напярэдадні першай сусветнай вайны знаходзіўся ў поўным заняпадзе. Прычыны гэтага розныя. Па-першае, аддаленасць ад сталіцы, буйных гандлёвых шляхоў і прамысловых цэнтраў тагачаснай Польшчы. На спрадвечную адсталасць наклаліся няшчасці шасці гадоў першай сусветнай і савецка-польскай войнаў. Франты праз нашу мясцовасць пракатваліся аж пяць разоў. Вялікіх баёў на ёй не адбывалася, але некаторыя населеныя пункты, як, напрыклад, Перабродздзе, значна пацярпелі ў час ваенных дзеянняў. Да гэтага трэба дадаць, што многія вёскі і мястэчкі ў акрузе былі разрабаваны нямецкімі акупантамі. А яшчэ шмат людзей пацярпела ад бандытаў. Згодна статыстыцы за ваенны час колькасць насельніцтва на тэрыторыі зменшылася на 20 працэнтаў.

Феадальныя перажыткі і прымітыўныя сельгаспрылады, нездавальняючыя бытавыя і санітарныя ўмовы – характэрныя асаблівасці сялянскага жыцця на пачатку 20-х гадоў. Малазямелле і цераспалосіца, застаўшыся пасля больш чым стогадовага панавання на гэтых землях царскай Расіі, душылі сялян, пазбаўлялі магчымасці стварэння таварнай сельскай гаспадаркі, уводзіць прагрэсіўныя метады апрацоўкі зямлі, вырошчваць неабходныя для гэтага культурныя расліны ў патрэбных аб'ёмах. Яшчэ ў 1931 годзе ў Віленскім ваяводстве аж 9,5 % гаспадарак мелі плошчы менш двух гектараў, 36,3 – ад 2-х да 5-ці, 34,6 – ад 5-ці да 10-ці гектараў. Толькі 10, 2% мелі плошчу ад 10-ці да 15-ці гектараў, 8,4% – ад 15-ці да 50-ці. І ўсяго адзін працэнт гаспадарак меў плошчу больш 50-ці гектараў. Прыкладна ў такіх суадносінах была размеркавана зямля і на тэрыторыі нашага раёна. Як бачна з прыведзеных прыкладаў, каля 20% гаспадарак па колькасці зямлі мелі магчымасць набыць характар таварны і яшчэ 34,6% – больш-менш дастаткова забяспечыць патрэбы сялянскай сям'і. Аднак трэба ўлічваць, што зямельныя надзелы пастаянна драбнелі ў выніку падзелу паміж дзецьмі гаспадароў. Акрамя гэтага, у вёсцы налічвалася пэўная колькасць не меўшых зямлі ўвогуле арандатараў і парабкаў. Гэтыя абставіны вымушалі многіх вяскоўцаў шукаць пабочнага заробку. У нашай мясцовасці на пераломе 20-х і 30-х гадоў яго давала пабудова чыгункі Варапаева – Друя. Па прыкладных падліках у 1927 – 1937 гадах штогод адпраўляліся на заробкі ў Латвію тры тысячы чалавек. За гэты перыяд каля тысячы чалавек эмігрыравала ў асноўным у Францыю і Аргенціну.

Нязначная частка эмігрантаў да 1939 года вярнулася назад. Яны часцей за ўсё куплялі кавалачак зямлі, будавалі сядзібу і займаліся сельскай гаспадаркай. Такая сядзіба захавалася ля вёскі Аўсянка.

Прымяненне непрадуктыўных сартоў, дрэнная апрацоўка палеткаў прыводзілі да нізкай ураджайнасці сельскагаспадарчых культур. У сярэднім па Віленскім ваяводстве ўраджайнасць жыта была 7, 3 цэнтнера з гектара, пшаніцы – 7,8, бульбы – 88 цэнтнераў. Тым не менш меналіта сельская гаспадарка ўсходніх ваяводстваў пазбегла заняпаду. У параўнанні з 1909 – 1913 гадамі вытворчасць жыта ў 1930 – 1934 гадах павялічылася тут на 13%, пшаніцы – на 66, ячменю – на 43, аўса – на 5, бульбы – больш чым удвая.

У першую чаргу гэта быў вынік зямельнай рэформы, праводзімай амаль увесь міжваенны перыяд. З 1919



па 1937 гады на Віленшчыне была ліквідавана цераспалосіца ў 39% гаспадарак. З тэрыторый, раней належачых да буйных маёнткаў, утворана 41 тысяча невялікіх зямельных участкаў-парцэляў, якія вольна прадаваліся. Сярэдняя плошча парцэля – 6 гектараў. Паказальна, што з набыўшых зямлю 70% было малазямельных, а 21% увогуле беззямельныя. У перападзе на тэрыторыю раёна 3000 гаспадарак было вынесена на хутары, а каля дзьвюх тысяч узніклі дзякуючы парцэляцыі.

Цікава ведаць, што з 1927 па 1937 гады на тэрыторыі Віленскага ваяводства было зрэгулявана 1,8 тысячы кіламетраў рэк і каналаў, асушана 38 тысяч гектараў. На тэрыторыі нашага раёна значны меліярацыйны аб'ект знаходзіўся каля вёскі Буянова.

Але быў у рэформы і другі бок медаля. Яшчэ пад час адмены прыгону расійскія ўлады дзеля паглыблення недаверу і варожасці паміж сялянамі і панамі пакінулі непадзеленыя пэўныя ўчасткі зямлі, якія знаходзіліся ў агульным карыстанні, і часам з'яўляліся прычынай узнікнення спрэчак, судовых працэсаў паміж уладальнікамі. Канфлікты іншы раз даходзілі да пагрому маёнткаў і служылі повадам для ўмяшання ў адносіны паміж вёскай і маёнткам царскіх улад. У ходзе рэформы гэты перажытак быў ліквідаваны, але не лепшым чынам, бо сялянам дасталася толькі чвэрць ад агульнай плошчы.

Нягледзячы на марудны поступ рэформы і шэраг адмоўных праяўленняў, яна дала магчымасць значнай колькасці сялян упершыню адчуць пах роднай зямелькі, ажыццявіць сваю спрадвечную мару. З'явілася рэальная магчымасць росту значнай колькасці гаспадарак да таварнага ўзроўню. Зразумела, што ўзрасла асабістая адказнасць і зацікаўленасць у выніках самастойнай працы.

Іншая справа, што значная частка сялян так і не адчула пазітыўных вынікаў рэформы на сабе, бо яна іх не закранула. У гэтым выявілася непаслядоўнасць польскай зямельнай рэформы.

У пэўнай ступені ўздыму сельскай гаспадаркі сад-

зейнічала дзейнасць павятовых аграномаў, якія вучылі сялян перадавым прыёмам вядзення гаспадаркі. Праз папулярныя лекцыі па агранаміі, кансультацыі і парады, арганізацыю конкурсаў і выстаў яны неслі ў сялянскае асяроддзе можа ў нечым элементарныя, але такія неабходныя тады веды. У гаспадарках пачалі павялічвацца пасадкі кармавых караняплодаў, канюшыны, памідораў.

Паступова сяляне набываюць больш эфектыўныя сельгаспрылады і механізмы прамысловай вытворчасці. Усё часцей, асабліва ў 30-я гады, пачалі прыходзіць веялкі з ручным прывадам (арфы), малатарні на конным прывадзе, саламарэзкі, жалезныя плугі і бароны, спрунжыноўкі. Зразумела, што далёка не кожны селянін мог дазволіць сабе купляць гэтыя рэчы, але пераўзбраенне сельскай гаспадаркі ў той час набыло высокія тэмпы. Уладальнікі некаторых маёнткаў таксама імкнуліся ісці ў нагу з часам. Напрыклад, яшчэ ў пачатку 20-х гадоў у маёнтку Любінова дзейнічалі млын і сукнавальня на прывадзе ад лакамабіля.

І ўсё ж выгоды, атрыманыя ў выніку рэформы, амаль поўнасцю зводзіліся на нішто ў выніку неспрыяльнай сусветнай кан'юнктуры на сельскагаспадарчыя тавары.

У 1931 годзе 60,6% насельніцтва Польшчы складалі сяляне. У Віленскім ваяводстве гэты працэнт быў вышэйшы – 72,3%, а на тэрыторыі раёна колькасць займаўшыхся непасрэдна сельскай гаспадаркай даходзіла да 90%. Вельмі нязначнай была доля служачых, асабліва адміністрацыйнага апарату, якая без паліцэйскіх складала прыкладна сто чалавек.

У выніку інфляцыі толькі з 1926 па 1933 гады сельскагаспадарчы даход на гектар сельгасугоддзяў зменшыўся з 248-мі да 102-х злотых, а чысты – са 143-х да 33-х.

Падкошвалі развіццё вёскі і частыя неўраджаі, якія былі ў 1924, 1926, 1928, 1931 і 1933 гадах. І хаця ў гэты час адчуваўся значны недахоп прадуктаў спажывання, але дзякуючы ўсталяваўшайся ў дзяржаве, можа і не дасканалай, рынкавай эканоміцы да голаду не дайшло. Не ўводзілася і картачнае размеркаванне прадуктаў у гарадах. Прымаліся экстраныя меры. Старажылы ўспамінаюць, што ў 1934 годзе рэзка актывізавалася дарожнае будаўніцтва. На яго прыцягваліся сяляне. За адпрацаваны дзень плацілі 8 кілаграмаў збожжа, а калі чалавек працаваў з канём, то 16 кілаграмаў.

У той час была шырока распаўсюджана і сялянская ўзаемадапамога. Газета "Кур'ер Віленскі" 13 лютага 1935 года паведамляла, што дзякуючы прыхільнасці вясковай грамады, інтэнсіўнай дзейнасці павятовага і гмінных камітэтаў, для пацярпеўшых ад паводкі было сабрана 89, 5 тоны жыта, 54,5 тоны бульбы, 2,1 тоны аўса, 388 кг ячменю, 178 кілаграмаў пшаніцы, 605 злотых.

Менавіта ў міжваенны час у нашай мясцовасці ўпершыню ўзніклі сялянскія грамадскія арганізацыі. Так, у статыстычных даных за 1938 год знаходзім, што ў Віленскім ваяводстве дзейнічала 413 гурткоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі з агульнай колькасцю 2685 наведвальнікаў. На тэрыторыі раёна дзейнічала каля 20-ці гурткоў, у якіх займалася прыкладна 300 чалавек. Яны былі ўтвораны ў вёсках Леснае, Сабалеўшчына, Юндзялова. Заняткі праводзілі спецыялісты доследнай станцыі, станцыі аховы раслін, мясцовыя аграномы.

Даволі шырока на тэрыторыі раёна распаўсюджвалася ў тыя гады сельскагаспадарчая літаратура – недарагія брашуры, часопісы, якіх у міжваеннай Польшчы толькі па сельскагаспадарчай тэматыцы выходзіла 55. Пэўную работу праводзіў і Беларускі інстытут культуры і гаспадаркі. У 1933 – 1936 гадах было выпушчана 81-на тысяча экзэмпляраў неперыядычнага друку на беларускай мове. У 1935 – 1936 гадах выходзіла 13 беларускіх часопісаў.

У 30-я гады пачала даволі актыўна развівацца кааперацыя, якая мела яскрава акрэслены польскі характар. У адрозненне ад украінцаў, якія ў тых умовах здолелі стварыць буйны і шырокаразгалінаваны кааператыўны рух, беларусы не змаглі вывесці свой з зародкавай ступені.

Пэўную грамадскую работу праводзілі служачыя галоўнай статыстычнай управы, якіх у Браслаўскім і Дзісненскім паветах налічвалася адпаведна 51 і 36 чалавек.

Карыстаючыся календаром-нататнікам за 1939 год, мы можам меркаваць аб мясцовых цэнах на сельгаспрадукцыю і плату за працу наёмных работнікаў. Напрыклад, цэнтнер жыта каштаваў 12,75 злотых, пшаніцы – 15,75, бульбы – 2,5, ільнасемя – 48, сена лугавога – 3,6, канюшыны – 4,2 злотых. Літр малака можна было набыць за 20 грошаў, а дзесятак яек – за 80. Кілаграм свініны каштаваў 60 – 90 грошаў, конь – 150 злотых, карова – 80, авечка – 10. За дзень касьбы працаваўшы атрымліваў два злотыя, за дзень уборкі сена – 1,5. Калі работнік харчаваўся самастойна, то заробак узрастаў на 50 грошаў. Зразумела, што ў рэальнасці гэтыя цэны мяняліся ў залежнасці ад канкрэтных умоў. Нярэдка працуючыя хутчэй згаджаліся на натуральную плату.

А вось цэны на некаторыя тавары прамысловай вытворчасці: кілаграм цукру каштаваў 1 злоты, а літр нафты – 0,85. Швейную машынку можна было купіць за 150 злотых, веласіпед за 75 – 90.

Пэўную асаблівасць надавала нашай мясцовасці і яе пагранічнае становішча. Гэтым карысталіся некато-рыя з мясцовых жыхароў. У нашай мясцовасці попытам карысталіся латышскія сахарын і крэмень для запальнічак. На савецкі бок граніцы з выгадай перапраўлялася тканіна.

Цікава, што праз Міёры і Дзісну пралягала адно з адгалінаванняў шляху ў Савецкую Беларусь для незадаволеных існуючымі ў Польшчы парадкамі. Гэты шлях выкарысталі для пераходу і мясцовыя жыхары – дачка арандатара з Навалакі Тоня Сіповіч і браты Шыманскія з Перабродздзя. Аб лёсе кожнага з іх можна было б напісаць трагічную і павучальную аповесць.

На заканчэнне хочацца сказаць, што развіццё вёскі ў 20-я – 30-я гады для адных было залатым перыядам, а для другіх – праклятым часам. Я не меў намеру кагосьці ў чымсьці пераконваць. Проста выкарыстаў захаваўшыеся статыстычныя звесткі. Па-другое, рэформы пэўнага зместу – не навіна ў грамадстве. Нашы продкі вялі і пераж ылі не адну. Мабыць, хтосьці ўловіць нейкія паралелі з сённяшняй сітуацыяй.

KRESY
Краязнаўца Паазер`я
Рэдактар Міхал Гіль
Тэл.факс.:2 17 84; E-mailgil@postavy.belpak.vitebsk.by

Наклад 299 паасобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі
Аддрукавана на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» г.Наваполацк